# ВУЧНЁЎСКІ ЗВОН

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ

вучнёўскае моладзі Віленскае Беларускае Гімназіі.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская 9.

Год I. 20 сьнежня 1929 г. № I.

## Ад Рэдакцыі.

Выпускаючы першы нумар „Вучнёўскага Звону", выявім перад усім мэты й заданьні, якія мы стаўляем перад сабой. Ужо ня раз былі роблены спробы, часам удачныя, выдаваць сталы ворган беларускае вучнёўскае моладзі. Пачынаючы ад 1921 году, калі „Маладое Жыцьцё" групавала вакол сябе ня толькі вучнёўскую, але наагул беларускую моладзь, гэтыя спробы праяўляюцца праз увесь час. У 1921 годзе выходзіць „Усход", „Рунь", „Зорка"; у 1926 годзе—„Пралескі"; у 1927 г. вучні нашае Гімназіі выдаюць адзін нумар „Наперад"; урэшце ў гэтым жа годзе выходзіць некалькі нумароў вучнёўскай газэты „Рэха".

Сумныя падзеі, якія адбыліся ў Гімназіі ў 1928 годзе, разстроілі жыцьцё сярод вучнёўскай моладзі, ахаладзілі неяк яе, адцягнулі ад творчай працы ў галіне самаўзгадаваньня й пазашкольнай асьветы. І толькі ў гэтым годзе „Вучнёўскі Звон" зьяўляецца першай, пасьля перарыву, спробай паставіць належна гэтую справу. Хіба ня трэба гаварыць аб патрэбе гэтае працы, якая падгатуе нас да больш сур'ёзнае працы ў Унівэрсытэце й грамадзянстве. Сярэдняя школа мала дае жыцьцёвага досьледу, мала дае ўрэшце й магчымасьці праявіць свае здольнасьці, вырабіць свой характэр. Дзеля гэтага „Вучнёўскі Звон" будзе служыць дла гэтых патрэбаў нашае моладзі, будзе памагаць школе самастойнай працай самое моладзі. Хай кожны будзе сьмелы ў думках! Калі нешта думае, хай пастараецца падзяліцца сваімі думкамі з другімі.

У адрозьненьне ад папярэдніх часопісаў, якія выходзілі (праўда, часта па незалежных ад саміх вучняў, прычынах) нерэгулярна, мы маем намер выпускаць „Вучнёўскі Звон" стала, праз увесь школьны год. Дзеля гэтага аднак патрэбна супрацоўніцтва ўсяе школы. Ня толькі той можа

працаваць у часопісі, хто нешта піша, але й той, хто ці то грошам, ці то будзённай працай (як карэкта, распаўсюджываньне часопісі) будзе падтрымліваць часопісь і рупіцца аб ёй. Калі ўсе шчыра возьмуцца за працу ў „Вучнёўскім Звоне“, калі кожны з вучняў будзе разумець важнасьць і неабходнасьць яго, дык часопісь нашу можна будзе паставіць на моцны грунт. Ад удзелу ўсіх вучняў залежыць посьпех яе.

Часопісь для нас мае вялікае значэньне: у ёй вучань зможа падзяліцца сваімі думкамі, зможа спрабаваць свае здольнасьці на літэратурным попрышчы, зможа ўрэшце навучыцца й узгадоўваць у сабе пачуцьцё абавязку й салідарнасьці. Нашы маладыя гімназісты-поэты знойдуць пачэсна ўдзеленае мейсца для друкаваньня сваіх твораў (вершы будуць друкавацца пад „Нашы Песьняры“). Хай кожны спрабуе пісаць, калі ня вершы, дык нешта іншае: апавяданьні, фэльетоны, карыкатуры, навуковыя стацьці; хто можа, хай рысуе ў часопісь, укладае загадкі й інш. Ніхто ня ведае, якія ў ім крыюцца здольнасьці. Хай кожны даведаецца, як цікава й нявымвўна прыемна адчуваць, што ён вось нешта робіць, нешта выдумвае, нешта творыпь. Што ні вучань—то й тып! Можна паглядзець ад‘емныя рысы, агульна-вучнёскія, ці некаторых вучняў, напісаць карыкатуральны абразок або фэльетон. Кожны, хто прачытае іх, знойдзе там частку сябе, будзе імкнуцца выкараніць благія навыкі. Трэба толькі добрая воля й праца! Тады „Вучнёўскі Звон“ зазвоніць маладым, разгонным звонам, напоўніць нашы маладыя істоты вясёлым шумам творчага запалу.

Да працы!!!

# Беларуская сцэна.

У сучасную пару зьнемажэньня беларускага руху, калі й культурнае жыцьцё перажывае стан анэміі, тэатр мае вялізарнае значэньне. П'еска, стаўленая час ад часу на беларускай сцэне, пабуджае беларуса да жывейшае працы, дае вялікае духовае задаваленьне. Хоць, праўда, і тэатр беларускі цяпер замёр. Калі 1922—25 гады былі парой найвялікшага разьвіцьця беларускага тэатру *), а ў 1926 — 27 г. г. уся Заходняя Беларусь раілася ад аматорскіх труппаў, то цяпер беларускі спэктакль зьяўляецца рэдкай навінкай і сьвятам для беларуса. Здавалася-б ёсьць усе патрэбныя варункі для паўстаньньня беларускага сталага тэатру, аднак грамадзянства, занятое безкарыснай палітычнай грызьнёй, гэтага тэатру ня творыць. Аб патрэбе сталага беларускага тэатру хіба ня трэба гаварыць. Ня раз ужо парушалася гэтая справа на шпальтах беларускае прэсы. Асабліва цяпер, калі сярод беларусаў пануе палітычны разброд, тэатр адгуляў-бы вялікую ролю. Найбольш высілкаў у гэтым кірунку робіць беларуская моладзь, перад усім студэнцтва, ак якога, трэба спадзявацца, і выйдзе ініцыятыва й зрэалізаваньне ідэі сталага беларускага тэатру **).

28 верасьня г. г. пачаўся „школьны сэзон" (ужываю гэты новы тэрмін на тэй падставе, што амаль усе спэктаклі ў Вільні быліладжаны вучнёўскай моладзьдзю) двума п'есамі „Страхі жыцьця" й „Міхалка", якія пастаўлены былі на сцэне студэнтамі.

„Страхі жыцьця" гэта адзін з найбольш выканчаных у сэньсе псыхолёгічным твораў Фр. Аляхновіча. Тут кожнае слова, кожны артыстычны жэст на мейсцы. Хіба Казюк трошкі ненатуральны, але, узяўшы пад увагу аго мяшчанскую псыхолёгію, і ён уваходзіць у драматычную форму. Калі ў „Дрыгве" ня так сільна зарысоўваюцца дзеючыя асобы, губляючыся на фоне рэстараннае сумятлівасьці, то тут кожная асоба прадумана Аляхновічам. Мы можам зразумець „усю" душу нэўрастэніка—Сымона, усю глыбіню пярпеньня й мукі Юзі. „Страхі жыцьця" — адзіны ў беларускай літэратуры твор, які можа служыць матэр'ялам для досьледаў над псыхолёгіяй т. з. „соцыяльных адкідаў". Бязумоўна, тут, як і ў „Дрыгве", заўважаецца выразны ўплыў „На дне" М. Горкага. Магчыма, што Аляхновіч дайшоў да

*) У 1922 г. у Вільні была створана Драматычная Студыя, кіраўніком якое быў М. Красінскі.

**) Драматычная Сэкцыя Б. С. С., якой кіруе здольны малады артыст Сяргей Сарока, праяўляе энэргічную працу. Між іншым, Др. Сэкцыя мае замер паставіць „Раскіданае Гняздо„ Я. Купалы.

акрэсьленьня псыхолёгіі „соцыяльных адкідаў“ зусім самастойным шляхам. Аляхновіч—жыхар места, ён добра ведае тую соцыяльную асярэдзіну, з якой ён выйшаў. Ен усё сказаў. Вёска ў яго штучная, места—знаёмае, блізкае, зразумелае. Аляхновіч, калі ў ім дашуківацца самароднага, беларускага ібсэнізму, вырастае ў вялікага чалавекаразумельніка. У „Страхах жыцьця“ ён рукой мастака творыць душы, якія мы можам суцэльна зразумець.

Гульня артыстаў была наагул добрая, апрача Маліцкага (Казюк). Найбольш мастацкага размаху выказалі Сарока, Цьвірко й Залкінд. Люсьцібэр (Алесь) гуляў добра, аднак рабіў шмат хібаў. Гэта, ясна, віна рэжысэра, які наагул ня вельмі добра развучыў п'есу. Казюк, напрыклад, забываецца шапку на стале, што немагчыма пры разважнасьці й флегматычнасьці яго; Алесь выходзіць есьці булку ў дзьверы, якія вядуць на двор. Гэта, бязумоўна, дробязі, але й на іх трэба зьвяртаць належную ўвагу.

# Нашы песьняры.

**Х. І.**

## НА КОЛЯДЫ.

Халодны вечар. У Базыльянах
Чуваць царкоўны, сумны сьпеў...
Ды толькі дрэваў калыханых
Сьвіст няўстрыманы, рэзкі веў.
Стаю адзін каля званіцы
І змроку ціша вее сны...
Натоўпам ноч пяюць начвіцы
І віхрам носяцця ў гары...
Яшчэ учора добра чулісь
І крык вясёлы, гоман, шум...
Сягоньня—ветрамі разьдзьмулісь
І у грудзёх збалелых—сум.
Халодны вечар. У Базыльянах
Чуваць царкоўны, сумны сьпеў...
Ды толькі дрэваў калыханых
Сьвіст няўстрыманы й рэзкі веў...

Снежань, 1924 г.

---

**Аўгень Бурсэвіч**
вуч. III клясы.

## Н О Ч.

Ціха шэпча лес зялёны,
Месяц сьвеціць у гары.
Зоркі ў небі замігцелі —
Сьветла стала на двары.
Водаль лесу, ля дарогі
Хата старая стаіць...
Сярод хваляў быстрай рэчкі
Лодка бліскам зіхаціць.
На траве раса іскрыцца,
Зьзяе срэбрам на лузе...
Шалясьціць чарот пануры...
Ані зыку, ані дзе...
У хаце беднага Трахіма
Жонка хворая ляжыць,
Сам Трахім, бядой агорнут,
Праз вакно на двор глядзіць.

---

**С. Малец**

вучань I-ае клясы.

## У ВОЙСКУ.

Ціха пахіліліcь
Бярозы ў лясочку...
Сумна, горка плачуць
Бацькі па сыночках...
Па сваіх сыночках,
Што у войску служаць.
Горкая іх доля!
Дужа яны тужаць...
Прыехаў на сьвяты,
Расказаў пра гора...
Заплакаўшы горка,
Паехаў у горад.

---

**Х. І.**

Колькі раз я пяяў вам, дажджы?
Колькі раз на вясьнянай вуліцы
Мы скакалі вакол, кружачы
У вясёлай, завейнай разгульліцы?
Зноў абмыліся дахі, дамы,
Сінь нябёсаў фарбуе шыбіны
І ў чаруючы захад мы
З нейкай думкай прыгожай заглыблены.
І як змрокі сплятаюць цем,
Паміж комінаў месяц блукаецца,
У вясьняную п'яную дрэм.
Глуха места шуміць, разьліваецца.

1929

---

**Х. І.**

З цыклю вершаў „Места“.

*
* *

Лаўлю адрыўкамі разгул мястовы,
Падобны да дыханьня зьвера..,
Вагні рэклям цалуюць калярова
Вячорна—веснавую шэрасьць...
Што раз, то новыя знаходжу зьместы
У вагнёў разводзьдзі, моры шуму...
Вясьнянка казачная —
Места —
Мая вячорная задума.

1929

---

# Увагі аб музыцы.

Музыка—гэта мастацтва, якое пры помачы гукаў дае нам магчымасьць выказываць свае духовыя настрoi, а нават і думкі. Яна зьяўляецца адным з відаў мастацтва, якое цесна злучана з усімі актамі нашага коллектыўнага жыцьця. Музыка зьяўляецца як-бы унівэрсальнай, агульна-зразумелай мовай. Яна найбольш прамаўляе да масаў. Мы зусім лёгка згадываем з песьні духовы настрой тых, хто тварыў яе, хоць і няведалі-б мовы, на якой яна пяецца. Кожны народ мае сваю музыку, створаную вялікім чалавекам — самім народам, і гэтая музыка зьяўляецца найлепшым адбіцьцём псыхолёгіі, характэру, жыцьця й прыроды дадзенага народу. Зусім іншыя будуць песьні жыхара скалістае, панурае паўночнае Скандынавіі, чым паўдзённае Францыі або Італіі. Польскі кампазытар Карловіч кажа аб сваёй „Літоўскай рапсодыі", якую стварыў з беларускіх народных матываў і ў якой апяяў нядолю нашага народу: „Вечная няволя гэтага беднага краю як-бы расплылася на ўсіх кутох і гучыць у сваіх сялянскіх мэлёдыях". Вось як лёгка адгадаць трагэдыю народу, ня глядзячы ў яго гістарычную мінуўшчыну. Гісторыя музыкі дзеліць музыкальную творчасьць на некалькі пэрыядаў у залежнасьці ад ідэалаў і кірункаў, якія панавалі ў ёй. XVI і XVII век гэта часы адраджэньня й рэформацыі ў музыцы, якія выразіліся ў рэканструкцыі старой грэцкай драмы з яе пяянай дэклямацыяй (з гэтага й паўстала опэра). Рамантызм згуляў вялізарную ролю ў эволюцыі музыкальнага мастацтва. Прадстаўніком раньняга рамантызму быў Людвік Бэтховэн, галоўныя заслугі якога адносяцца да інструмэнтальнай музыкі. Бэтховэн закладае фундамэнт пазьней-

шай сымфоніі. Апрача дзевяцёх сымфоніяў, напісаў ён некалькі ўвэртур, фортэп'янных санатау, а таксама скрыпічных і фортэп'янных канцэртаў. Сваю трэцюю сымфонію, так званую багатырскую, пасьвячае кампазытар Напалеону, але, калі той абвесьціў сябе імпэратарам, то Бэтховэн, з пераконаньняў дэмакрат, пасьвячае свой твор усім невядомым гэроям. Сёмая й восьмая сымфоніі зьяўляюцца ўзорамі сымфанічнай архітэктуры. Дзевятая сымфонія—гэта адзін вялічавы гімн, апяваючы людзкія цярпеньні й мукі. Гэты твор лічыцца недараўнаным у выражэньні пачуцьня. Наагул, творчасьць рамантыкаў характэрызуецца вялікім суб'ектывізмам у выказываньні пачуцьця, узьлётнымі тэмамі й у поўнай меры прасякнута „цярпеньнямі Вэртэра" (Weltschmerz). На гэты час прыпадае паўстаньне солёвага сьпеву, а таксама й вялікае разьвіцьцё віртуознасьці на салёвых інструмэнтах (паўстае рымская школа віртуозаў). Мікола Паганіні займае перадавое мейсца сярод віртуозаў скрыпічнае клясы; яго лічаць бацькай віртуозаў, а ігра яго мела дзякуючы сваёй дэмонічнасьці ўплыў на Ліста й Шопэна. Тыповымі прадстаўнікамі пазьнейшага рамантызму зьяўляюцца Мэндэльсон і Робэрт Шуман, адна з найсьвятлейшых адзінак таго часу, натура паўная энтузыязму для ўсяго прыгожага. Пасьля рамантызму паўстае кірунак так званы нэо-рамантычны, тэорыю якога творыць францускі кампазытар Бэрліоз. У гэтым кірунку творыцца музыка апісаўчая, альбо праграмная; прадстаўніком гэтага кірунку ёсьць Ліст. Рышард Вагнэр творыць музыкальную драму, у склад якой уваходзяць Tannhäuser, Lohengrin, Nibelungen і другія кампазыцыі. Сучасная нам мадэрністычная музыка зьяўляецца так сама адбіцьцём паваенных настрояў, адбіцьцём таго галавукружачага тэмпу, з якім разьвіваецца сучасная тэхніка. Нашыя кругазоры й ідэалы пашыраюцца й паглыбляюцца. Такім чынам мы бачым, што музыка цесна зьвязана з жыцьцём і ідэаламі грамадзянства і, маючы вялізарную літэратуру, займае першае мейсца ў мастацтве.

Улад. Рудніцкі.

# Крыху аб спорце.

„Mens sana in corpore sano“—у здаровым целе здаровы дух. У гэтым сказе, бязумоўна, ёсьць трохі перасады, але, бяручы наагул, словы гэтыя маюць глыбокі сэнс. Духовае разьвіцьцё адзінкі, бязспрэчна, вельмі залежыць ад фізычнага стану цела. Дакладныя навуковыя досьледы даказываюць гэта ясна. Сіла волі, характэру, быстрасьць розуму—усё гэта знаходзіцца ў вялікай залежнасьці ад фізычнага разьвіцьця цела. З грамадзянскага пункту гледжаньня, фізычнае выхавадьне мае вялізарнае значэньне. Толькі здаровыя фізычна адзінкі здольны ў грамадзянстве да творчых высілкаў. Толькі моцныя фізычна й духова адзінкі патрапяць у аднаведным момэнце выдабыць з сябе найбольш энэргіі, патрапяць вытрывала змагацца з жыцьцём. На захадзе, у высака-культурных народаў, ужо даўно зразумелі неабходнасьць і значэньне спорту. Там амаль што ўсе займаюцца спорам да позьняе стараьсці, захоўваючы да найстарэйшых гадоў быстры розум і гібкае цела. У апошніх гадох мы зьяўляемся сьведкамі надзвычайнага разьвіцьця спорту на ўсім сьвеце. З даўнейшымі, варожымі адносінамі да спорту, як да нечага непатрэбнага, з вышуківаньнем у ім слабых старон, недаацэніваньнем яго грамадзкага значэньня даўно пакончана. Сярод беларусоў, а асабліва сярод беларускай моладзі, ідэя спорту амаль што не парушалася. „Сакол“ у Празе істнаваў нядоўга. У краі-ж зусім ня было спробаў стварыць спартовую арганізацыю. Найвышэйшы час скончыць з гэтым! Трэба распаўсюджываць спартовыя лёзунгі, заклікаць да гімнастычных практыкаваньняў, да стварэньня ўрэшце спартовай беларускай арганізацыі.

Цяпер на вуліцах і пляцох балота, вада, але пройдзе тыдзень, мо' два, — зазьвіняць на вуліцах званочкі санак, зараяцца горы ад лыжвароў, заблішчыць ледзяное кола катка. Гэткія агульна-дaступныя спорты, як язда на каньках і лыжвах, дазволяць забыцца аб шэрых, будзённых днёх і будуць заўсёды крыніцай жыцьцёвага задаваленьня й радасьці. Замест таго, каб праводзіць дні й вечары ці то ў хатах, ці то на вечарынах, у атмосфэры пылу, поту й дыму—гайда на сьвежае, паветра, на лёд, на сьнег! Больш руху! Рух—жыцьцё! Г.

# Разьвіцьцё й значэньне радыётэхнікі.

Піонэрам на полі практычнай радыётэлеграфіі быў Марконі, якому першы раз у 1896 годзе ўдалося размаўляць бяз дроту паміж дзьвума ангельскімі станцыямі на адлегласьці некалькіх кілёмэтраў.

Калі Марконі ў 1896 г. рабіў першыя пробы, то дасягнуў з пачатку адлегласьць каля 100 м., а пасьля 3 клм. У 1908 г. можна было перагаварвацца ўжо праз Антлянтыцкі акіян на адлегласьці 3,000 клм. а цяпер вялікія трансатлянтыцкія станцыі паразумяваюцца з кожным пунктам нашае зямное кулі.

Катодная лямпа, знойдзеная яшчэ перад вайной, пхнула радыётэхніку на новыя шляхі; дзякуючы гэтым лямпам магчыма ўзмацненьне слабых токаў, атрыманых на станцыях адбіраючых з адлеглых станцыяў надаўчых. Дзякуючы гэтаму, самыя апараты могуць быць меншыя, і замест высока нацягнутых антэн, можна ўжыць антэну рамавую, складаючуся з некалькіх дзесяткаў тонкага дроту, накручанага на драўлянай раме. Такім чынам можна будаваць малыя, лёгкія і танныя радыёапараты. Маючы ў сябе радыёапарат, мы можам слухаць мову, сьпеў і музыку з вельмі далёка адлеглых станцыяў. Цяпер няма таго гаспадарства, якое-б ня мела прынамся адну надаўчую станцыю. Для камунікацыі на вялікія адлегласьці ўжываецца радыётэлеграф. Радыётэлефон ужываецца на адлегласьці, не перавышаючай пару тысяч кілёмэтраў. Радыётэлефонія ўжываецца на караблёх і аэраплянах. Пасажырскія аэраплянЫ, курсуючыя на лініі Парыж—Лёндан, праз увесь час падарожжы маюць радыётэлефанічнае злучэньне з Парыжам і Лёнданам. Вялікае значэньне мае радыётэлеграфія і радыётэлефонія ў мараплаваньні. Кожны карабель мае радыётэлеграфічную станцыю, якая атрымлівае мэтэоролёгічныя й прэсавыя камунікаты, сыгналам часу з дакладнасьцю да 0,01 сек. У тым выпадку, калі караблю пагражае катастрофа можна прызваць на помач караблі, якія знаходзяцва на вялікай адлежнасьці. Трэба ўспомніць яшчэ аб радыёфарах. Радыёфары гэта такія радыётэлерафічныя прылады, якія так, як маякі, слу-

жацць караблём для арыентацыі ў часе ночы, пры вялікім тумане і т. п. Яны стала высылаюць праз пэўны час сыгналы, дзякуючы якім караблі і могуць арыентавацца. Гэтае самае значэньне радыёфары маюць і для авіятыкі. Не магу тут апісаць усіх застасаваньняў радыётэхнікі, бо гэта патрабуе шмат часу й месца, але ўспомню яшча аб астатніх здабыцьцях веды: тэлемэханіка, перанашэньне абразоў на адлегласьць, перанашэньне сьвятла.

Тэлемэханіка палягае на тым, што пры помачы радыётэлеграфічнай эмісыі (высыланьня), мы можам кіраваць параходам, альбо нават і аэраплянам, пушчаючы ў рух матор радыётэлеграфічнай дарогай. Спробы ў гэтым кірунку роблены ўжо ў 1918 г., але да гэтага часу тэлемэханіка ня мае практычнага застасаваньня. Перанашэньне на адлегласьць абразоў ёсьць таксама ў пачаткавай стадыі — гэта пачатак тэлевізыі. Калі прыблізна 30 гадоў таму назад Марконі збудаваў сваю станцыю, ужываў каля 50 ваттаў энэргіі (watt—адзінка спраўнасьці), індукцыйную шпульку, якую прыводзіў у рух сталым токам і антэну ў нэкалькі дзесяткаў мэтраў вышыні. Цяпер працуюць вялікія станцыі з моцай у некалькі дзесяткаў, я нават і сотняў кілёваттаў (1 кілёватт=1000 ваттаў), а антэны маюць вышыню ў пару сот мэтраў.

Тое, што яшчэ нядаўна здавалася ўтопіяй, думкай фантазёраў—зрабілася сапраўднасьцю.

П. Радзюк.

# Цікавая вынаходка XX веку!

Адзін амэрыканскі электрамэханік Г. Гартман збудаваў з найлепшай сталі вадалазны звон, каторы вытрымлівае ціск некалькі дзесяткаў атмосфэр. Пры помачы гэтай прылады можна апускацца ў глыбіню мора на 800 мэтраў. І цяпер, разам з знаным інжынерам Сэрнэрам, адпраўляюцца на дасьледжываньне й адкрыцьцё затопленых матэрыкоў і забыткаў старой цывілізацыі. Абыдва вынаходцы аселі над Міжземным морам, каторае па думцы азалёгаў было некалі ўраджайнай лагчынай і толькі па прарваньні натуральнай грэблі над Гібралтарам—паддалася моцнаму напору Атлянтыцкага акіяну.

Слаўны італьянскі прафэсар Мазары, дырэктар музэю, кажа, што вадалазы бачылі шмат разоў на дне мора руіны нейкага затопленага гораду.

Гэты магутны стальны цыліндар зьмяшчае ў сабе: рэзэрвуары з тлёнам, акумулятары і прылады дя ачышчэньня паветра, фотографічныя апараты і фільмовыя, вокны прыкрытыя моцнымі пластамі кварцу, і электрычныя лямпы.

Над гэтым вынаходам доўга працавалі яго вынахадцы ў знаных працоўнях Круппа.

Звон Гартамана мае такую ўласьціваць, што па парваньні міны, якая лучыць яго з параходам, ён выплывае на паверхню мора.

У пробнай экспэдыцыі на дно, зроблена некалькі фотографічных зьнімкаў старадаўняга городу рымскага Палеополіс.

Наступным этапам вынаходчыкаў будзе экспэдыцыя ў краіны, затопленыя між Сыцыліяй і афрыканскім пабярэжжам. Хто ведае? можа яны й адчыняць легендарную Атлянтыду?

Падаў Авэ.

# Народная творчасьць.

(Народная песьня, запісаныя летам 1929 году ў месьце Пружанах на хрэсьбінах ад Ганны Дудзейка Хв. Ільляшевічам).

Ой, даўно-ж, даўно
Я ў роду была...
Дый тая сьцежанька { пяецца
Дзярном зарасла { 2 разы.

Ой, як я схочу,
Дзярно просею...
До свого баценька { 2 разы.
Орлом полечу

Ой сяду, паду
У вішнёвом саду
На тэй гэрэшэньцы, { 2 разы.
Што ў самом саду

Ой, як я схочу, —
Увесь садзвеселю,
А як я схочу, — { 2 разы.
Увесь сад засмучу

Ой. устань, стары,
Што нам Бог дае
Што ў нашом садочку { 2 разы.
Зазулька кує

То ні зазулька,
То наша дочка:
Одбілась од роду { 2 разы.
Як быліночка

Калі зазулька,
То прошу у бор;
Як наша дочка { 2 разы.
Той прошу за стол.

# ХРОНІКА.

× 14—XI Верасьня адбыўся агульна сход сяброў вучнёўскага коопэратыву.

× 5—X Адбыўся вучнёўскі суботнік.

× 12—X Адбыўся суботнік, на якім паказывалі абраз з „Quo Vadis“.

× 17—X Адбыўся сход вучнёўскага коопэратыву.

× 19—X Былі прачытаны рэфараты VI клясой з „Quo Vadis“.

× 27—X Высьвячэлі абразы па коопэрацыі.

× 1—XI Літэратурна-Гістарычны Ґурток зладзіў вечарыну.

× 17—XI Была урачыстая акадэмія, ладжаная ў чэсьць 10-тых угодкаў сьмерці І. Луцкевіча.

× 30—XI Адбылася акадэмія прычыны 400 лецьця Літоўскага Статуту.

× 2—XII Пэд. рада рэарганізавала літ. гіст. гурток.

× 7—XII Былі арыштавана 6-ох вучняў В. Б. Г. якія былі на хаўтурах Ю. Юхны: С. Скурка VI кл., З. Скурка VI кл., Я. Патаповіч VI, А. Патаповіч V, К. Жук V, Ю. Даўнар VI кл. Усе вышпамянёныя вучні акром С. Скуркі 19.XII звольнены з вастрогу.

× 7—XII Адбыўся рэфэрат калегі VII кл. В. Кізіка на тэму: „Аб гуманізьме“. Пасьля рэфэрату адбылася дыскусыя.

× У нядаўным часе фундаментальная бібліотэка ўзбагацілася на 500 экзэмпляраў.

× 15—XII а гадзіне 5 па паўдні адбыўся рэфэрат вучыцеля М. Ільяшэвіча на тэму: „Краязнаўства і турыстыка“.

# Вучнёўскі Гумар.

Вучыцель: Чаму ты спозьніўся на лекцыю геаграфіі?

Вучань: Я... пане вучыцель, паўтараў лекцыю й так задумаўся, што зайшоў аж на станцыю.

---

Вучыцель: Хто можа адказаць на пытаньне?

Кляса маўчыць.

Вучань на першай лаўцы падымае руку.

Вучыцель: Ну, скажы ты.

Вучань: Ці можна выйсьці?

# Задачкі*)

**Задачка I.**

У магазын прыходзіць малады чалавек, які старгоўвае боты. Боты каштуюць 15 рублёў. Малады чалавек даў 25 рублёвую паперку. Дзеля таго, што гаспадар ня мае ў касе дробных, ён ідзе ў аптэку й там разьменівае 25 рублёў, якія даў яму малады чалавек. Гаспадар дае боты й 10 рублёў рэшты й малады чалавек выходзіць. Праз пэўны час зьяўляецца аптэкар і заяўляе, што грошы, якія ён разьмяніў, былі фальшывыя. Гаспадар магазыну дае аптэкару 25 рублёў. Колькі страціў гаспадар магазыну грошы?

**Задачка 2.**

Слупок мае даўжыню дзесяць мэтраў. Па ім паўзе гусеніца. У дзень яна прапаўзае 5 мэтраў, у ноч спадае на 4 мэтры ўніз (значыцца за суткі прапаўзае 1 мэтр). За сколькі гадзін дапаўзе гусеніца да гары слупка?

**Задачка 3.**

Зрабіць з пяцьцю тройкамі (3, 3, 3, 3, 3) усе арытмэтычныя дзеяньні, каб выйшла 31. (Ня можна, каб у нашым выражэньні было больш, як 5 троек).

---

*) Адказы прыймае Вікар Астроўскі, вуч. VII кл., які кіруе гэтым аддзелам.

# Ад Рэдакцыі.

Рэдакцыя „Вучнёўскага Звону“ заклікае ўсіх вучняў усіх беларускіх гімназіяў да працы ў часопісі. Толькі пры супольных высілках робіцца вялікая справа. Матэр'ялы й грашовыя дапамогі прыймае вуч. VIII кл. Уладзімір Рудніцкі.

**Рэдакцыя.**

Выдавец: Літэратурна-Гістарычны Гурток.
Рэдактар: Рэдакцыйная Калегія:
Ул. Рудніцкі, М. Шчасны, Я. Шалешка.
Адказны Рэдактар: Р. Астроўскі.

Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.

# Зьмест

Стар.